Літаратурная старонка

ТРЫБУНА ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ

№ 45

АЛЕСЬ БАРСКІ

# БАЛАДА АБ БІЗУНЕ

Сцяна ў памешчыцкім пакоі
Глядзіць традыцыяй стагоддзяў.
Хтось клапатліваю рукою
Праславіў панскае адроддзе.
Хрыстос вісіць, узняўшы руку,
Ён мір прынёс сюды ў парогі.
Гадзіннік мерным ціхім стукаі
Адводзіць думкі ад трывогі.
Партрэты — шэраг продкаў слаўных
Двухстволка, шабля, рогі лося
І габелен з узорам даўнім,
Карціна, а ў карціне восень.
Далей сляды ліхіх завеяў,
Паходаў слаўных і суровых.
Вісяць ваенныя трафеі
Дзесь з-пад Смаленска, Мінска, Пскова.
І герб вялікі — славы сімвал,
Традыцый векавых азнака,
І скрыпка, што спявала гімны,
Або вучыла дамы плакаць.
І пад усім, пад гэтым збродам,
У месцы зручным, ганаровым,
Вісеў на розныя нагоды
Бізун раменны адмысловы.
Казіна ножка ў чорнай скуры
І бічык — бізуна істота.
Напіўся, чортава натура,
Сялянскіх слёз, крыві і поту.
Змяёю поўз па белым свеце,
Глядзеў ён з-за халявы панскай.
Ішоў праз цэлыя сталецці,
Ішоў ён па хрыбтах сялянскіх
Перадаваўся бацькам сыну,
Перадаваўся пану панам,
Стаўся падпораю краіны,
Святой рэліквіяй, талісманам.
З яго прадажным, гнуткім целам
Сумленне панскае зраслося,
Ім шчасце доўга зіхацела,
Эх, давялося! эх, жылося!

* * *

Змянілася нарэшце штосьці,
Настала новых спраў багата,
Зышоў на свет жаданым госцем,
Зышоў на свет год сорак пяты.
І першы раз выпраставаны,
Зламаўшы звычаі і нормы,
Прышоў мужык, прышоў да пана,
Прышоў з зямельнаю рэформай.
Пан ашалеў, рукою пэўнай
З сцяны сарваў бізун-старэчу
І рэзануў маланкай гнеўнай
Апошні раз халопу плечы.
Бізун павіс над селянінам,
Як параграф часоў прыгону,
Але не змог паўторна рынуць
На галаву змяёй шалёнай.
Бо рук дзесятак спрацаваных
Зваліў тут пана на падлогу.
Хлябнулі ўрэшце плечы пана
Смак горкі бізуна — батога.
Бізун свістаў па панскім целе,
Пасля прабег па тварах продкаў
Яго удары звонка пелі
Фінал ідыліі салодкай.
І, кінуты сялянскім гневам,
На пана лёг, як знак няволі,
Упаў з апошнім свістам — спевам
Каб не узняцца больш ніколі.
І словы моцныя, як вецер,
Зляцелі з вуснаў селяніну:
«Хто ходзіць з бізуном па свеце,
Ад бізуна павінен згінуць».

* * *

ВІКТАР ШВЕД

# У КНІГАРНІ

Заглянуў сюды я па дарозе
Праглядзець навінкі на паліцы.
І мяне запаланіў тут позірк
Стройнай, чарнавокай прадаўшчыцы.

З той пары не ў пошуках навінак
У кнігарню пратаптаў я сцежку.
Мяне вабіць позіркам дзяўчына,
Зачароўвае сваёй усмешкай.

# Арцём Дарэўскі — Вярыга

Знаёмячыся з беларускім літаратурным рухам, які ў другой палове XIX ст. канцэнтраваўся ў Вільні, асабліва вакол «Кур'ера Віленскага», выяўляюцца цікавыя факты, адлюстроўваючыя ролю тагачаснай польскай і беларускай інтэлігенцыі. Аб'яднаная супольнымі імкненнямі будзіць замілаванне да творчасці на пагарджанай «вышэйшымі саслоўямі» беларускай мове пакладала самыя сур'ёзныя намаганні, каб увесці ў жыццё свае высакародныя намеры. Да гэтых людзей шчыльна прымыкаў Арцём Дарэўскі - Вярыга (1815—1874), з якім звязаны першыя праблескі літаратурнага руху на Беларусі.

Польскія біяграфічныя крыніцы гавораць аб Дарэўскім як аб выдатным знаўцы гісторыі і таленавітым пісьменніку. Яго творы часта змяшчаліся ў тагачасным польскім друку, у прыватнасці, на старонках «Варшаўскага дзенніка» і «Кронікі вядомасці краёвых і заграннічных». Свае артыкулы і творы падпісваў звычайна псеўданімамі. Ведаем іх некалькі: Артэміюш, Мізантроп, Чомбер, Беларуская Дуда, Салецкі. Сярод больш вядомых твораў Дарэўскага, якія выйшлі асобным выданнем, з'яўляецца «Гавэнда аб сваяку». Нажаль, не маем магчымасці пераканацца, што сабой уяўляла гэтае выданне. Яно знаходзілася раней у зборах Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве. Толькі ў каталогах захаваўся след, што гэта былі паэтычныя творы з цыклу «З тэкі беларускіх абразкаў». «Гавэнда аб сваяку» з'явілася ў друку ў Магілёве ў 1858 годзе, у выданні друкарні Сіркіна. Аўтар «Гавэндаў» выступае тут пад псеўданімам «Беларуская Дуда». У каталогу Нацыянальнай бібліятэкі адзначаецца, што выданне з'яўляецца першым з гэтага цыклу.

Польскі даследчык Адам Кіркор у сваіх лекцыях па гісторыі славянскіх літаратур у Тэхнічна — прамысловым музеі ў Кракаве, якія выйшлі з друку ў 1874 годзе, называў Дарэўскага адным з найбольш выдатных беларускіх народных пісьменнікаў. Як адзначаў, пяру гэтага пісьменніка належалі наступныя творы: «Гутарка з Пляндроўкі па зямлі латышскай», «Зварот Міхалкі», «Быхаў», драматычны твор «Гордасць», паэма «Астульга». Асабліва вылучаў даследчык выдатны пераклад Дарэўскім «Канрада Валенрода» А. Міцкевіча. Кіркор дaслоўна сцвярджаў, што пісьменнік «ідучы ўслед за прыкладам Дуніна-Марцінкевіча (Кіркор меў на ўвазе пераклад Дуніным - Марцінкевічам «Пана Тадэуша» — заўвага МК), пераклаў на беларускую мову цэлага «Канрада Валенрода» і пераклаў так прыгожа, што сілай гэтага перакладу і яго выдатнасцю здзівіў бы самога несмяротнага вешча». Кіркор адзначае, што гэты пераклад ніколі не дачакаўся выдання ды і наогул, як мяркуе, ніякі беларускі твор Дарэўскага, пачынаючы ад 1859 года, не з'явіўся ў друку. Найбольшай заслугай пісьменніка, на думку даследчыка, былі яго песні, шырока вядомыя па ўсей Беларусі.

Нядаўна, знаёмячыся з польскім часопісам «Рух Музычны», які выходзіў у 1857—1862 г. г., мне давялося знайсці мала вядомыя беларускія творы, якіх аўтарства «Бібліяграфія Руху Музычнага» В. Багдані і К. Міхалоўскага прыпісвае Дарэўскаму. Спярша, аднак, аб самым часопісе.

Выдаваўся ён у Варшаве пад рэдакцыяй Юзэфа Сікорскага. «Рух Музычны» мае зараз вялікае значэнне ў музыказнаўстве як сур'ёзная крыніца для вывучэння тагачаснай польскай музычнай культуры. Часопіс вызначаўся папулярным характарам і служыў асветным мэтам. Значную ўвагу ён удзяляў народнай музыцы, і гэтым фактам можам, хіба, тлумачыць зацікаўленне «Руху» беларускімі творамі. Для нас зараз цікавасць прадстаўляюць два нумары «Руху» — 49 з 1859 года і №3 з 1861 года, у якіх змешчаны карэспандэнцыі, падпісаныя «Беларускай Дудай».

Карэспандэнцыя Дарэўскага ў часопісе з 1859 года датуецца 4 лістапада. У ёй спачатку паведамляецца аб чарговым канцэрце ў Віцебску, а затым аўтар прыступае да сваіх беларускіх твораў. Тут чытаем: «А можа надвіслянскія браты цікавяцца паэзіяй сваіх наддзвінскіх братоў, сялян Белай Русі? Змяшчаем тут спробы, шчыра жадаючы, каб вы з імі пазнаёміліся, і не сумняваемся, што зразумееце. Гаворкі ж славянскіх плямён, хаця і раздзеленыя месцам і ўмовамі, усё-такі маюць шмат агульнага і пры першым сутыкненні даводзіцца лёгка іх зразумець. Мы пераканаліся ў гэтым у час сустрэчы з сербамі і чытаючы чэшскую паэзію.» Пад гэтым тэкстам змяшчаюцца два творы «Гімн да абразу Цудоўнай Маці Божай Бялыніцкай над Дняпром» і фрагмент з беларускай оперы «Грэх 4-ры гнеў». Гімн, зразумела, твор рэлігійнага характару. Ён знамянальны для нас пэўнымі водгукамі ў тэксце бяспраўнага, гаротнага жыцця сялянства. Вось першыя радкі твора:

Бялыніцка наша Маці!
Мы дзетак тваіх грамада
Молім: памож нам дыхаці!
Трудніцька ж — а жыць нада!

Гімн прасякнуты безнадзейнасцю, просьбамі аб лепшай долі для галодных і знясіленых цяжкай працай. Канчаецца ён воклічам сялянскай грамады, якая ў алегарычным вобразе сонца хоча бачыць сваю лепшую долю:

Сілкі ж ужо нам не стала,
Суонінька! гляньжэ ж на дзетак!

Мабыць, пэўным сведчаннем папулярнасці гэтага гімна будзе факт, што яшчэ сёння жыхары тамашніх аколіц, пражываючая зараз пад Варшавай сям'я Галынскіх захавала яго ў памяці.

Несумненную цікавасць прадстаўляе для нас фрагмент з оперы Дарэўскага пад трошкі незвычайным загалоўкам «Грэх 4-ры гнеў». Тут прыгадваецца «Думка салдаткі», якую сёння прапануем увазе чытачоў «Нівы»:

Плыві, плыві ты! Дзьвіна сярабрыста,
Аж там у сама Балтыцькае мора;
І прыкаціся там гдзе душа чыста,
Майго Фядола прападаіць з гора.
Не страш яго там маімі слязамі,
Ні аб рабятках не кажы худзеа;
Што па кусочках хаджу з сіратамі
Не кажы рэчка, а пацеш мілога.
Паплыла рэчка слязінкай бліснуўшы,
З роднай зямелькі шэпчыць берагамі;
Бедна салдатка дзетак абхінуўшы,
Рэчкінай думкі слухала з слязамі:
«Мая сястрыца, салдатка сіротка!
Маліся Богу і перастань плакаць:
І я ж чысценька, рэзва і красотка,
А і мне сэрца бутаражыць шлякаць.
Таго, што хочыш, табе не дажыцца,
Ні тваім дзеткам, сястрыца сярдзечна,
Ні мне ў мора цэлай не праліцца;
Мне плысці вечна, табе чакаць вечна».
Бедна салдатка душы аблягчыла,
Ба з Дзьвінай слёзы горкі раздзяляла;
Стэля паплыца які даўней плыла,
Тая чэкаіць, як даўней чакала.

Ці можам на падставе гэтых нешматлікіх фактаў лічыць Дарэўскага пачынальнікам беларускай драматургіі? Цяжка зараз на гэтае пытанне адказаць, не маючы пад рукою цэлай творчай спадчыны пісьменніка, якая мабыць не абмяжоўвалася толькі драмай «Гордасць» і операй «Гнеў». Урэшце, многія беларускія творы Дарэўскага былі пашыраны ў рукапісах, з якіх ні адзін не захаваўся. Тым не менш ён у нейкай ступені прымыкае да сапраўднага заснавальніка драматургіі на Беларусі Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, працуючага ў той час плённа ў гэтай галіне.

Наступную карэспандэнцыю Дарэўскага знаходзім у № 3 «Руху музычнага» ад 4 студзеня 1861 года. Карэспандэнцыя датуецца снежнем 1860 года. Яна яшчэ больш набліжае да

(Працяг на стар. 4)

ІВАН ЧЫКВІН

# ЖАНОЧАЯ СІЛА

З тваёй жаночасцю лягчэй ісці
Па вытаптаных вуліцах і парках.
Нічога, што жыццё па швах трашчыць,
Можа таму і жыць з табою варта...

У месяца вялікія вочы,
Тваю прыгажосць захілю ад злога:
Ён хоча, напэўна, хоча спаўрочыць,
Ці нашыя мары ўбачыць аблогам.

Прайграеш са мной, начны несмяротнік,
Шчасце абараню сваё, як асілак.
У жыццё шырэй адкрыйце вароты:
Я еду, са мною — жаночая сіла.

ЯША БУРШ

Пра маё жыццё
ты не пытай
бо яно змяшчаецца
у слове — «Край»!
у гэта слова
я ныраю
як
У жыццедайную матэрыю...
раз
з яе я выплываю
дзіцём
мацеры на грудзі
другім
ружай пасаджуся
закаханым у надзею
шчырым дзецям
незабудкай
на ўзмешку зацвітаю
і праменні шчасця
ў далячынь уплятаю.

* * *

## Самародны інжынер

(Працяг са стар. 1).

Хатка Паўла Валошына маленькая, але гэта ўсё пакуль што. Ён разам са сваім сынам Валодзям, якому ўжо 18 год, рыхтуецца да будовы новай прыгожай хаты.

Каля будынкаў Паўла Валошына кідаецца ў вочы маса рознага жалеза, розных шасцярон і шасцяронак, калёсаў, самаходных частак і г. д. Адкуль гэта тут яно ўзялося? А вось адкуль. Пасля вайны па ўсіх дарогах ляжала шмат машын, шмат рознага ламачча. І Павел Валошын збіраў яго.

— Вось гэтая частка можа быць патрэбна пры пабудове вятрака, а гэта пры пабудове малой электрастанцыі, а гэта можа да чаго іншага спатрэбіцца, — так разважаў Павел Валошын і разам з сынам сцягаў да сябе розныя вялікія і малыя часткі разбітых і папсаваных машын.

Што - небудзь майстраваць, ствараць, складаць нейкія рухавікі — гэта стыхія Паўла Валошына. У мінулым сам зрабіў ён каля сваёй хаты вятрак. Відавочна, найлепш ён не малоў, таму што ў лесе, у нізка размешчанай мясцовасці, няма добрага ветру, і Павел Валошын раскідаў яго. Пазней зрабіў ён станок для вырабу гонтаў. Станок быў зусім драўляны. На гэтым станку Павел Валошын вырабляў за адну гадзіну каля трох тысяч гонтаў. Было гэта яшчэ перад 1939 годам. Да яго прыязджалі людзі з навакольных вёсак і заказвалі гэты вельмі патрэбны матэрыял на пакрыццё дахаў.

Часта гэты чалавек глядзеў на ручаёк Вершаліна і нешта разважаў. Думаў ён, як гэта ўласнымі сіламі і здольнасцямі зрабіць так, каб выкарыстаць ваду, каб пабудаваць электрастанцыю. Гэта думка не пакідала яго. Вядома, справа даволі складаная. Ён жа не інжынер, ён не канчаў ніякіх школ. За цара закончыў некалькі класаў і гэта ўсё. І таму нялёгка яму прыходзілася пабудова ўласнымі сіламі маленькай электрастанцыі, якая дала б свет у яго хату і гаспадарчыя будынкі. І намаганні гэтага самароднага інжынера закончыліся поспехам. Сканструяваныя ім самым машыны сталі даваць электраэнергію.

Вядома, абсталяванні там прымітыўныя, драўляныя. Плаціна на ручайку таксама драўляная.

Здольнасці Паўла Валошына незвычайныя. У той час, калі шмат ёсць на вёсцы людзей, якія так як трэба не ўмеюць зацясаць кала, гэты чалавек цуды робіць. Нядаўна зрабіў ён самаход. Апрача рухавіка і калёсаў ён цалкам драўляны. Сваім самаходам ездзіць усюды, дзе яму трэба. Каб больш можна было нагрузіць на самаход, Павел Валошын зрабіў прычэп (таксама ўсё драўлянае) і пяцімятровыя дзве драбіны. І калі на прычэп і самаход паложыць ён гэтыя драбіны і накладзе сена альбо кары, дык чалавек дзівуецца, што столькі можа змясціць гэты прымітыўны самаход.

Пры доме Паўла Валошына можна пабачыць і іншыя цікаўнасці, зробленыя яго рукамі. Апрача кавальскіх, слесарскіх і сталярскіх прыладаў можна там пабачыць своевасаблівыя лесапільныя пілы. Ёсць іх чатыры. Абсталяванне драўлянае. Да іх падключаецца рухавік і адразу можна выпілоўваць па чатыры дошкі.

У наваколлі многія гавораць аб Паўлу Валошыну. Некаторыя захапляюцца яго здольнасцямі, а некаторыя крытыкуюць яго за тое, што ён ніколі спакойна не пажыве, усё штосьці робіць, творыць.

Многа таксама гаворыцца і аб штодзённым сямейным жыцці Паўла Валошына. У прэзідыуме ГРН у Гуранах расказвалі мне аб тым, што Павел Валошын, калі возьмецца за працу, дык шчыра працуе, а калі сам сабе назначыць адзін месяц у год адпачынку, дык тады да нічога ані дакранецца.

— На вёсцы, — кажа ён людзям, — можна так жыць, як у горадзе, можна арганізаваць сабе месячны водпуск. Месячны водпуск дае ён таксама і для сваёй жонкі. І калі ўжо жонка мае водпуск, ён не дазваляе нічога ёй рабіць. Сам скробае бульбу, варыць, корміць свіней, доіць кароў. Тады ён двоіцца і троіцца ў рабоце.

Непадалёку хаты Паўла Валошына можна пабачыць яшчэ штосьці асаблівага. На ўбіты ў зямлю кол насаджана конская галава. Паводле яго, чэрап гэтай галавы адпуджвае ўсялякае зло, усялякія беды ад яго сядзібы.

І калі гаворым з гэтым самародным інжынерам, якому ўжо «перакаціла» за 60 год, захапляемся ім, захапляемся яго здольнымі, залатымі рукамі. І міжвольна насоўваецца думка, што ў дрэнны час нарадзіўся ён, што надта за рана ён нарадзіўся. І каб цяпер праходзіла яго маладосць, быў бы ён напэўна знатным канструктарам, які шмат прынёс бы задавальнення сабе і карысці дзяржаве.

Тэкст і фота
**М. ХМЯЛЕЎСКІ**



Павел Валошын каля станка, пры дапамозе якога выцягвае дрэвы з ручайка

Самаход, які сканструяваў Павел Валошын.

## КНІЖКА НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

На Гайнаўшчыне з кожным годам кніжка здабывае сабе ўсё больш чытачоў. Яшчэ 10 год таму на ўсёй тэрыторыі Гайнаўскага павета налічвалася не больш, як каля 1000 пастаянных чытачоў, якія пазычалі кніжкі у паасобных, вельмі тады рэдка параскіданых, бібліятэчных пунктах.

Зараз на Гайнаўшчыне існуе 96 бібліятэчных пунктаў, вакол якіх гуртуецца каля 11 тысяч пастаянных чытачоў.

Асаблівым зацікаўленнем кніжка карыстаецца на Гайнаўшчыне сярод вясковага насельніцтва. У паасобных вёсках павета ёсць звыш 8000 пастаянных чытачоў.

За апошнія гады значна павялічыўся кнігазбор грамадскіх бібліятэк, дасягаючы 50 тысяч кніг.

Сярод гэтага кнігазбору усё больш знаходзіцца і беларускіх кніжак.

Зараз у бібліятэках павета налічваецца каля 3000 беларускіх кніжак. А яшчэ 10 год таму на Гайнаўшчыне мала дзе можна было сустрэць беларускую кніжку.

Ведаем, якія былі ўмовы для развіцця беларускай асветы ў панскай Польшчы. Усё, што беларускае, клеймавалася шавіністычнай палітыкай санацыі. У выніку гэтага на Гайнаўшчыне, зрэшты як і на ўсёй Беласточчыне, толькі адзінкі валодалі літаратурнай беларускай мовай.

Таму ў першыя гады пасля вызвалення цяжка было беларускай кніжцы здабываць папулярнасць у родных вёсках.

Лік-каля 1000 пастаянных чытачоў, якія зараз на тэрыторыі Гайнаўскага павета штодзённа карыстаюцца беларускай кніжкай (не ўлічваючы чытачоў у школах), — вельмі пацяшаючы.

Гэты лік сведчыць аб тым, што родная кніжка здабывае належную сабе папулярнасць пад стрэхамі беларускіх хат.

У гэтым значная заслуга вясковых бібліятэкараў, якія, прымяняючы цікавыя формы (конкурсы, насценгазеты, сустрэчы, вечарніцы), папулярызуюць беларускую кніжку сярод насельніцтва. (вб)

## УЗРАСТАЕ КОЛЬКАСЦЬ МАТАЦЫКЛІСТАЎ

Веласіпедамі перастала захапляцца ўжо сялянская моладзь. Зараз кожны з юнакоў марыць аб набыцці матацыкла. Матацыкл стаў модным, а пра веласіпед і не ўспамінай. Вось таму зараз на вёсках усё часцей і часцей арганізуюцца курсы матацыклістаў.

Гэтай важнай справай для моладзі, між іншымі, займаецца павятовы аддзел БГКТ у Мілейчыцах. Нядаўна арганізаваў ён два курсы матацыклістаў, на якіх разам было 48 навучэнцаў. Адзін з гэтых курсаў быў у Мілейчыцах, а другі ў Вілінаве (Сямяціцкі павет). Трэба падкрэсліць, што гэта адзіны аддзел БГКТ, які займаецца і гэтай дзялянкай працы. (мх)

**Аб густах нашых людзей**

## „По рюмочке, по маленькой...”

Шклянка ад муштарды пераходзіць з рук у рукі. Ваня налівае, Пецька п'е, Шурка пайшоў купляць сваю бутэльку «Вермуту» — не, не французскага, а таго, нашага (за дваццаць і пару зл.). Кожны фундуе па чарзе — тут жа, у сенцах вясковай крамы (шклянку дала гаспадыня). Бо і дзе ж з гэтай «кавай» ісці, хіба трэба закусваць пасля яе, ці што?

Іх пецярых — спацелых, расхрыстаных (спёка летняя). Шурка прынёс дзевятую «булю», моцна сціснуў яе пасярэдзіне пальцамі і размашыста жарнуў дном аб падлогу, корак фыркнуў пад столь, у шыйцы закіпела віно... Наліваем.

Па манапольку трэба ехаць да ГС-у. А мы, звычайнае салтысоўства, можам папіваць толькі віно. Ці толькі?

Гарбатая Манька асцярожная. Прадай Пецьку паўлітроўкі «чэмаргесу», уп'ецца малакасос, дый «вылапоча» дзе не трэба, што гэта маньчына самагонка... Трасца яму ўбок!

Да Манькі пастукаў над ранам Якім.

— Моцная ўжо разышлася, — сказала. — Усё роўна, давай слабую, — сусед нецярпліва таптаўся на месцы. «Госць ў хаце без гарэлкі сядзіць, а яна яшчэ цырымоніцца», — думаў са злосцю.

У Манькі няма «слабой» — што літроўка дык больш пякучая (моцная!). Але гэта таямніца яе рамяства... Солтыс хваліць, Якім задаволена ўсміхаецца і далівае.

На другі дзень солтыса схапіла жаўтачка. Ляжаў у Сакольскім шпіталі...

Выяўлены міліцыяй маньчын фаховы сакрэт навёў паніку на яе кліентаў. Манька боўтала па троху да самагонкі курынага памёту! У Крынках, кажуць, курыным памётам дамарослыя гарбары выпальвалі шэрсць на скурах...

Манька — не аптэкар, відаць, перабаршчыла гэтым разам.

Запытаеце: а Якім? Нічога, яго не адвозілі, вытрымаў. Хай лепш пуза лопне, чым дабро мела змарнавацца!

На паліцы ў краме стаяць «сінія» бутэлькі, на іх наклейкі з трупінымі галоўкамі. Стары Карусь дрыжачымі пальцамі лічыць грошы. Купляе цэлы літар. Дэнатурат. Хопіць да святой пятніцы — рана шклянячку, вечарам шклянку? Выпіць!

Карусь не курыць. Хтось жартуе — баіцца, каб не загарэўся. Карусь — «дэнатуршчык». Для яго высокія парогі ў самагончын рай (цэны). «Зрэшты, які ў ёй смак?». Карусь мае рацыю. У самой Дуброве вядомыя яму мяшчане не адмаўляюцца ад Карусёвых фундаў.

*

У нашай краіне змяншаецца спажыццё алкаголю; павялічваецца спажыццё він (ферментаваных, а як жа). Дэнатурат не канкурэнт, ды і праславілася ім пакуль што малая Дуброўшчына.

Віна купіш усюды, а манапольку — там дзе сядзіба ГРН-у...

Ці Карусь даведаецца калі-небудзь, што дэнатурат — гэта страшная атрута?! А самагонка — не толькі маньчына, — як думаеш, Якім? Манапалька таксама.

Усё ж, шчыра кажучы, шклянка не пасуе да песні «По рюмочке, по маленькой»... Малая. Патрэбны цэбрыкі!

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

# Трыбуна чытачоў

## ВЫГЛЯД НАШАЙ ВЁСКІ

На працягу паваенных гадоў у нашай вёсцы адбыліся вялікія змены. Вёска поўнасцю адбудавалася. Хоць будынкі пераважна і драўляныя, але найчасцей пакрыты чарапіцай. Пачынаюць у нас будаваць і мураваныя дамы. З будаўляных матэрыялаў найбольшую папулярнасць здабыў у нас жужаль. Гэта танны і добры матэрыял. Сяляне робяць з яго пустакі, з якіх будуюць склепы, хлявы, а нават жылдёвыя хаты.

Вуліца ў нашай вёсцы выбрукавана і абсаджана маладымі дрэўцамі. Будуецца раміза, у якой будзе і вясковы клуб. Моладзь гэтаму вельмі рада. У клубе шырэй зможа разгарнуць сваю дзейнасць вядомы ў ваколіцы наш мастацкі гурток.

Жыхары нашай вёскі не толькі дбаюць пра выгляд вёскі, але таксама і пра яе наваколле. На трыстаметравым адрэзку шашы (Беласток — Гайнаўка) зелянеюць маладыя дрэўцы.

Падняўся ўзровень культуры ў нашай вёсцы. Усё больш сялян чытае кніжкі. У вёсцы арганізавалася школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, у якую ходзяць моладзь не толькі з Ласінкі, але і з навакольных вёсак. Раз у месяц прыязджае ў нашу вёску кіно, а таксама часта наведвае нас і «Лявоніха».

**Янка Керсноўскі**
Ласінка

## ВЁСКА ЛІШЧАНА

Вёска Лішчана налічвае 15 гаспадароў. Хоць вёска і малая, але ёсць тут чатырохкласная школа, у якую ходзяць дзеці з трох вёсак. Школьнікі вельмі любяць свайго настаўніка. Ён з замілаваннем адносіцца да сваіх абавязкаў, ён таксама на заканчэнне школьнага года развучыў з дзецьмі п'есу і навучыў іх песень.

Добра было б, каб усімі паважаны настаўнік памог наладзіць і вясковай моладзі мастацкую самадзейнасць, бо мясцовы гуртох, хоць і арганізаваны ў 1960 г., існуе аднак толькі на паперы.

**Жэня Гламбоцкая**

## Нядбайныя гаспадары

Штогод маланка прыносіць людзям вялікія страты. Дзяржава робіць вялікія намаганні, каб забяспечыць людзей ад яе. З гэтай мэтай закладваюцца грамаадводы. І ў нашай вёсцы яны заложаны. Але вось, некаторыя гаспадары не заклалі дратоў у зямлю і яны вісяць на сценах будынкаў, або на платах. Зразумела, такі грамаадвод не абароніць будынка ад маланкі. Грамадзяне, закопвайце драты грамаадводаў, тады пазбегнеце страт!

**Мікола Корх**
Дубічы Царкоўныя

## Наша моладзь працуе

Не так даўно ў Навінах арганізаваўся мастацкі гурток. Першы раз са сваёй праграмай выступілі самадзейнікі ў роднай вёсцы. Выступленне ўсім вельмі спадабалася. Заахвочаныя поспехам, нашы самадзейнікі запланавалі паездкі і ў іншыя вёскі.

Таксама паспяхова прайшоў арганізаваны мясцовым гуртком БГКТ праблемны курс па беларускай літаратуры. На курсе абмяркоўваліся творы Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Курс вёў настаўнік Іван Ляшкевіч. Ён таксама узначальвае і мастацкі гурток.

Гурток БГКТ за зробленыя на канцэртах грошы пастанавіў паехаць на экскурсію ў Закапанэ.

**ЗІНА ЯЛІНІК**
Навіны

## БІБЛІЯТЭЧНЫЯ СПРАВЫ СЕМЯНОУКІ

Грамадская бібліятэка ў Семяноўцы (Гайнаўскі павет) змяшчаецца ў будынку тутэйшай пачатковай школы і налічвае звыш 2 тысяч тамоў. Загадчыкам бібліятэкі з'яўляецца Ніна Матысюк. Гэта сумленны і таленавіты бібліятэкар. Кожнаму яна натрапіць падабраць адпаведную кніжку і мае 130 чытачоў. Чытаюць старэйшыя і маладыя. Са старэйшых выдзяляецца Мікалай Біруцкі, а з маладшых — Янка Аніськевіч.

Амаль усе чытаюць у нас кніжкі на роднай мове. Ёсць тут таксама беларускія часопісы і газеты. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца «Беларусь» і «Ніва».

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### ШКОЛЫ

## Хачу быць шахцёрам

Да рэдакцыі звяртаюцца юнакі, якія закончылі 7 класаў пачатковай школы і хочуць паступіць вучыцца на шахцёра.

Ніжэй падаем адрасы шахцёрскіх школ:

Bytom — Pl. Thälmanna 1
Technikum Górnicze MG i E — internat
(górnictwo)

Chorzów-Batory — ul. Sportowa 3
Technikum Górnicze MG i E — internat
(górnictwo i przeróbka mechaniczna kopalin)

Katowice — Mikołowska 131
Technikum Górnicze MG i E — internat
(górnictwo i budownictwo górnicze)

Rybnik — ul. Kościuszki 5
Technikum Górnicze MG i E — internat
(górnictwo)

Zabrze — ul. 1 Maja 12
Technikum Górnicze MG i E — internat
(górnictwo)

Калі хто з вас захоча паступіць у адну з вышэй паданых школ, раім звярнуцца пісьмова да дырэкцыі выбранай вамі школы, адкуль атрымаеце бліжэйшыя інфармацыі.

Паведамляем, што пры ўсіх пададзеных намі шахцёрскіх тэхнікумах існуе завочнае навучанне для працуючых. Але тады трэба абавязкова працаваць у шахцёрстве.

Калі хочаце паступіць не ў тэхнікум, а ў Засаднічую шахцёрскую школу, прачытайце інфармацыю „W szkołach górniczych wolne miejsca" ў „Gromadzie Rolnik Polski" «з дня 24 ліпеня 1962 г. (аўторак), з якой даведаецеся падрабязней аб умовах прыёму.

(НА)


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Btk F-3


## КІНО

**ПРАГРАМА**
**ад 6—12. VIII. 1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Swiatła na biegunie" (radz.), 7—9. „Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 10—12.

**Кляшчэлі**
„Słońce wschodzi nad Bengalem" (pakistański), 7—9. „Pokój przychodzącemu na świat" (radziecki), 10—12.

**Навасады**
„Skok o świcie" (radz.), 11—12.

**Нараў**
„Salwa o świcie" (radz.), 8—12.

**Нараўка**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 8—12.

**Чаромуха**
„W pięknej Indonezji" (radz.), 7—9. „Portier z Lazurowego Wybrzeża" (franc.), 10—12.

**Чыжы**
„Dotknięcie nocy" (polski), 8—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zaduszki" (polski), 8—12.

**Бранск**
„Pierwszy lot w kosmos" (radziecki), 7—9.„Herszt" (franc.), 10—12.

**Орля**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 8—12.

**Райск**
„Dziewiąty krąg" (jugosł.), 8—12.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Z soboty na niedzielę" (ang.), 7—9. „Gorsza miłość" (węgierski), 10—12.

**Міхалова**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 7—9. „Martwe dusze" (radz.) 10—12.

**Супрасль**
„Księżniczka i niedźwiedź" (czeski), 7—9. „Ukryte skarby" (czeski), 10—12.

**Чорна Весь**
„Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), 7—9. „Żebro Adama" (USA), 10—12.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„W obronie mojej miłości" (włoski), 7—9. „Miłość powraca wiosną" (radz.), 10—12.

**Мілейчыцы**
„Człowiek z za biurka" (włoski), 7—9. „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 10—12.

**Нурэц**
„Marysia i krasnoludki" (polski), 7—9. „Herszt" (franc.), 10—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Katastrofa" (rumuński), 7—9. „Wyrok" (polski), 10—12.

**Сухаволя**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 7—9. „Tajemnica szyfru" (rumuński), 10—12.

**Шудзялава**
„Daleki ukochany" (radz.), 8—12.

**Янаў**
„W krainie białej czapli" (węgierski), 7—9. „Jewdokia" (radziecki), 10—12.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Człowiek ze słomy" (włoski), 11—12.

**Новы Двор**
„Dziewiąty krąg" (jugosł.), 11—12.

**Ружаны Сток**
„SOS Titanic" (angl.), 11—12.

(Працяг са стар. 2).

Нарэшце Заўгелю пашчаслівілася злавіць прапагандыста, але Пфайфер катэгарычна заявіў, што да восьмай вечара няма чаго і думаць, каб выехаць з Шамбрэі, бо яму трэба выступіць яшчэ ў некалькіх месцах.

— Гер Пфайфер, у нас цяпер не вельмі спакойна, і лепш было б выехаць адразу, або пераначаваць у Шамбрэі і рушыць у дарогу раніцай, — заўважыў Заўгель.

— А з якога гэта часу афіцэры арміі фюрэра пачалі баяцца цемры. Я прывык да думкі, што баяцца яе толькі дзеці! — пажартаваў Пфайфер і акінуў пераможным позіркам шматлікіх афіцэраў, якія яго акружалі.

Прысутныя зарагаталі. Заўгель пачырванеў і адышоў.

А чацвертай дваццаць дня Генрых і Заўгель сустракалі на вакзале Берціну. Берціна была ў парадной форме. Заўгель з захапленнем паглядаў на госцю.

Папрасіўшы прабачэння, Заўгель пайшоў ўдакладніць з Пфайферам гадзіну ад'езда, а Берціна і Генрых накіраваліся ў рэстаран.

— Што за вецер прыбіў вас да нашых берагоў і ці надоўга? — спытаў Генрых, калі яны зручна размясціліся ў асобнай кабіне.

— Інакш кажучы: адкуль вас прынесла і як доўга вы надакучваць будзеце мне? — рассмяялася Берціна.

— Я, здаецца, не даў вам ніякай падставы зрабіць такі вывад.

— А тое, што вы нават для формы не запрасілі мяне на заручыны?

— Вы жанчына і павінны здагадацца, што я ўнікаў сустрэчы з вамі якраз таму, што моцна хацеў гэтага!

— О, Генрых, глядзіце, каб я не злавіла вас на слове! Дык я цяпер буду вашай суседкай і мушу папярэдзіць: хачу адудзячыцца гэтай шыраканосай Лорхен, выкраўшы ў яе з-пад носа жаніха!

— Як гэта будзеце маёй суседкай? Дык канцлагер, дзе вы працуеце, наколькі я помню, ва Усходняй Прусіі?

Берціна падняла адно плячо і павярнулася ім да Генрыха.

— Вы вельмі няўважлівы, барон! Звярніце ўвагу вось на гэта! — Берціна пастукала пальцам па невялікім пагоне.

— О, дык вас можна павіншаваць.

— Як бачыце! А гэта значыць, што мяне павысілі і на пасадзе. Мяне назначылі начальнікам жаночага канцлагера ўзмоцненага рэжыму ў Понтэ-Сан-Марцін, гэта, здаецца, недалёка ад Сан-Рэмі.

— Вы вельмі хутка прасоўваецеся.

— О, проста маланкава! Хочаце ведаць чаму? Я запрапанавала новы рэжым для паланянак і добра вывучыла густы свайго начальства. Я адбірала наймаладзейшых і найпрыгажэйшых дзяўчат і ведала каму якую накіраваць... Праз некалькі месяцаў я ўжо была наменнікам начальніка лагера!

— Так вы хутка даслужыцеся і да генерала!

— О, кар'еру я зраблю!

Берціна не прыкмеціла ні іранічнасці тону Генрыха, ні злых агенькоў у яго вачах.

—Што да сваёй далейшай кар'еры, то я вялікую надзею пакладаю якраз на гэты лагер, які маю цяпер прыняць. Нядаўна там забілі начальніка. Шмат павесілі, але вінаватых не знайшлі. Мне даручана ў гэтым лагеры завесці самы жорсткі рэжым, і я ўжо апрацавала цэлы план захадаў. О, я ўпэўнена, што свайго даб'юся! Нават, калі б мне давялося павесіць кожную трэцюю!

Генрых адчуў, што ў яго цямнее ў вачах.

— Што з вамі, Генрых? — пачуў ён голас Берціны і раптам быццам прачнуўся ад сну.

«Яна не даедзе да лагера. Як гэта зрабіць, — не ведаю, але яна да лагера не даедзе!» — цвёрда вырашыў ён, і адразу яму зрабілася лягчэй.

(Працяг за тыдзень)

